* * *

Вяргіні, маргарыткі і ляўкоі
Пад снегам засынаюць агнявым,
А прачынаюцца ізноў на волі
Пад подыхам турботлівым Тваім.

Танцуй, жыццё
да попелу, да болю,
Да лёду ў горле, вогнішча ў грудзях.
Сябе мы безнадзейнасцю няволім,
Няверай беспрытульных і бадзяг.

І кожны дзень, і кожны год паволі
Сівеем, мітусімся — дагарым...
А недзе хутка ажывуць ляўкоі
Пад подыхам турботлівым Тваім.

* * *

І горы, па крылах сумуючы,
прыдумалі аблокі...

*Ф. Г. Лорка*

А горы прыдумалі птушак,
Бо марылі самі лётаць,
А пушчы птушыныя душы
Да лета схавалі ў сотах.

І мёдам душа жывая
Ліецца, бо не замёрзла,
А завіруха сівая
У вербах хавае слёзы.

Душа паляціць да сонца.
Вясну сустракаць ёй першай.
А горы прыдумалі птушак,
А птушкі прыдумалі вершы.

## *ДРЭВА ЖЫЦЦЯ*

Дрэва кожнае на зямлі
паўтарае Дрэва Сусвету...

*Р. Барадулін*

Прыснілася дрэва жыцця —
Вярбіна мая каля хаты,
А там на галінах — бацян,
У прымы прыбіўся ці ў сваты.

І свята было на зямлі —
Басое бегла дарогай,
І рушнікі плылі
Ракою, журбою, трывогай.

І недзе гармонь ляцеў
Ад ганку — да небакраю,
І не было чысцей
Сярмяжнага гэтага раю.

Абраныя для жыцця
Пісалі свой першы спомін.
А ў небе кружыў бацян,
І я з ім, і сон, і поўня...

* * *

Знямелі вершы, песні адзвінелі,
Змялела рэчка вербамі на ўсход,
А я іду да пракавечнай веры
У адмысловы сонечны паход.

А я іду — і дрэвы вырастаюць,
І матылькі садзяцца на руку,
А гэта значыць, што мяне пазнаюць
На тым баку.

Адтуляцца нябёсы — брама ў сэрца,
На могілках загояцца крыжы.
Там, дзе любоў, — няма тугі і смерці.
Хіба дажджы...

## *МЯТЛІКІ*

Бабуля казала мне калісьці,
што блакітныя матылькі —
гэта райскія птушкі, якія згубілі радзіму.
Яна называла іх «мятлікі».
А я ўяўляла пах мяты і светлыя лікі ў куце
на абразах.
Хата была вялікая і ўтульная.
Як зойдзеш у яе, зразу пабачыш печ-ахоўніцу.
Яна памятала ўсе гісторыі нашай сям'і,
усе легенды і паданні.
Часам я бачыла, як на ёй адбіваюцца
мае дзіцячыя сны і мары.
На сцяне вісеў гадзіннік, у якім жыў добры
казачнік Бай.
Той Бай з дзіцячай бясконцай
замоўкі-забаўкі,
які «ішоў па сцяне і нёс сямёра лапцей».
Ці данёс ён гэтыя лапці да «жаны і дзяцей»,
ці дачакаліся яго родныя?
Гэтыя пытанні хвалявалі маю дзіцячую ўяву,
таму я зноў і зноў
прасіла бабулю расказаць бясконцы вершык
спачатку.
Каля вакна стаяў стол, засланы белым
накрухмаленым настольнікам.
Калі бабуля пякла бліны, яшчэ напаўсонная,
я чула гэты неверагодны водар.
Ускоквала з пасцелі і куляй ляцела да стала,
на якім ужо ляжалі гатовыя бліны-выспачкі.

Ніколі не каштавала нічога смачнейшага...
З таго часу прайшло гадоў сорак. І сёння я
прыехала сюды,
да свайго дзяцінства. Даўгой і нялёгкай была
мая дарога.
Але я не магу адчуць радзіму,
пакуль не пабываю
ў гэтай хаце,
роднай, з-пад сэрца.
Пякуча і балюча бачыць яе аслеплую,
утравелую,
урослую ў зямлю.
Абышла з усіх бакоў, зазірнула ў вокны.
Ці памятаюць яны абдымкі родных людзей,
іхныя посмішкі?
Дзе яны, родныя?
Не гояцца крыжы на магілах,
не зацягваюцца раны ў сэрцы.
Гэта не праўда, што час лечыць.
Ён проста дае кароткі спачын,
прыглушае боль.
Але трэба жыць далей.
Дрэва роду павінна расці, квітнець,
памнажаць
дабро на зямлі...
Зазірнула ў студню, а там — чыстая вада і
новае вядро прытулілася...
І так лёгка адразу стала на сэрцы —
людзі п'юць ваду
з нашай студні,
а значыць, яна жывая. Няхай п'юць, няхай
працягваецца жыццё...

## *ТРОЙЦА*

У хаце пахне зёлкамі,
І чабаром, і мятаю.
Душа далоняй волкаю
Фіранку неба кратае.

І дождж ідзе, і поўніцца
Вядро, як поўня боская.
На ганку Багародзіца
Памыла ногі босыя.

У хаце пахне мятаю,
І печ павольна дыхае.
Прыснілася так свята мне
Зялёнае і ціхае.

## *КАРАНІ*

*Памяці майго дзеда Іосіфа Снарскага*

Майго дзеда Іосіфа Снарскага забілі 8 снежня 1937 года. Яго арыштавалі 5 лістапада 1937 года па несправядлівым і бязглуздым абвінавачанні, нібы з 1927 года ён з'яўляўся ўдзельнікам контррэвалюцыйнай арганізацыі паўстанцаў «ПАВ» (Польская арганізацыя вайскова) і праводзіў сярод насельніцтва антысавецкую агітацыю. Па гэтай жа справе толькі па Віцебскай вобласці праходзілі тысячы людзей, большасць з якіх былі расстраляны. Як стала вядома пазней, арганізацыі «ПАВ» ніколі не існавала. 30 лістапада 1960 года вайсковы трыбунал Беларускай ваеннай акругі вызначыў: «Постановление Комиссии НКВД и прокурора СССР от 22 ноября 1937 года в отношении Снарского Иосифа Иосифовича отменить и дело производством прекратить за отсутствием состава преступления». Майго дзеда поўнасцю рэабілітавалі. Як і яго роднага брата Клаўдзія Снарскага, арыштаванага і забітага ў той жа самы дзень. Месца захавання братоў да гэтага часу застаецца невядомым.

### *1*

А шчасце пасля здзічэла —
Дзядоўнік і лебяда...
Дзяды хату клалі смела.
Вясёлая грамада.

Збіраліся талакою,
Ладзілі зруб над ракой
І птушцы прыгожай белай
Махалі услед рукой.

А каб яна павярнулася,
Манеты — пад вугал, на дол,
І танчылі курнай вуліцай,
І долю крапілі вадой.

А потым спакойна спалі.
Сон, нібы галубок...
(Сон той мне скроні паліць).
Недзе пшанічны Бог

Даўгія вусы расчэсвае —
Будзе яшчэ дарог...
Але ўжо вяшчуюць весніцы
Кроў і астрог.

*2*

Ноччу звонкі кожны крок.
Змрок.
Па галінцы птушка скок —
Рок.
Недзе ў лесе сыч крычыць:
— Жыць!
І так хочацца зару піць.

*3*

Гэтая ноч зацягнулася,
Сон на дасвецці, як вір.
Вывелі ў споднім на вуліцу.
Рэчка ў крыві.

Дзе тая птушка заветная?
Дзе той пшанічны Бог?

Крумкачы даляглядам лётаюць,
Падае Бог у быльнёг.

*4*

Крумкачы закрылі неба.
Сэрца волі, як зала.
Цераз вечнасць крыж свой несці.
Дакрануцца б да вугла
Роднай хаты, дзе манеты
Пад другім ляжаць вянцом.
Шчасце зрэбнае, ну дзе ты
З Сынам, Духам і Айцом?

*5*

Першы крок на белай пожні
Чорным крукам, чорным крукам.
І заломіць маці рукі —
Зорцы не свяціць астрожнай.

За гарамі, за даламі
Сонца звяжуць ланцугамі
І на сэрцы чорнай ніткай
Вырак той смяротны выткуць.

Быў ён бацькам, быў ён любым...
Кожны дзень бліжэй да згубы.
Крыжык выслізнуў з далоні,
Храм згарэў, званы не звоняць.

Б’ецца ноч драпежнай птушкай.
Некаму дзяцей пагушкаць.
Хто ад голаду ўратуе
Беспрытульных, беспрытульных?

Ліст ляціць лясной сініцай,
Толькі гэта сніцца, сніцца.
Б’ецца снежань у вакно

Ненароджанай вясной.
Крок на снезе, крок апошні
Стане зноў зялёнай пожняй...
Ты дайшоў да нас, паспеў
І пачуў анёлаў спеў.

***6***

Недзе крыкнула сарока,
Значыць хутка будзе ліст.
У вакна сляпое вока
Дзень святло сваё праліў.
Птушка-дзень, зямное дзіва
Не кранаецца травы.
— Мама, хутка будзе зліва!
Значыць, бацька наш жывы.

***7***

> Харона адужылі
> Сцюжа і стома,
> Бо ў царстве Аіда
> Ні планаў, ні зім...
>
> *Р. Барадулін*

А ўжо і Харон стаміўся,
Са сталі яго вясло,
І лівень на плечы ліўся,
І снег засыпаў чало.

Дрыжалі, гулі землятрусам
Старонкі драпежных вякоў.
Харон у дарогу рушыў
Адзін на адзін з ракой.

Адзін на адзін з журбою,
Самотнай, смяротнай мяжой.
Адзін са сваім спакоем.
Адзін з чужою бядой.

***8***

Камень. Рачулка. Поле.
Тут паміраў мой дзед.
Дзень спавядаўся долу
І крыжаной вадзе.

Завеі хавалі гукі.
Дзе кат той, які страляў?
Ці стаў ён пасля бязрукім,
Ці галаву схіляў?

Ці падаў у скрусе потым,
Сляпы і глухі кат,
Ці залівала потам
Люты яго пагляд?

Колькі ён жыў ці жэўрыў,
Гэты самотны кат,
Калі зачынілі дзверы,
Як Каіну ў райскі сад?

***9***

Ратуйце, сосны, птушак,
Свяціце ім ў дарозе,
Вы — свечкі гэтай пушчы,
Паходні на марозе.
Свяціце, сосны, птушкам
Адважным, летуценным.
Іх у нябёсы пусцяць
Забітых продкаў цені.
На вастрыні адвагі
І сонечных сумётаў
Гараць жывыя душы
Тых, хто вучыў нас лётаць.

## ПАЭТАМ ЗАМЕЖЖА

Гарачыя снягі ўзышлі, як караваі,
Яны плывуць скрозь сон
На берагі душы.
Я кнігу цішыні павольна адкрываю,
Там родная рака,
і ноч, і трыснягі.

Пішыце пра любоў, самотныя паэты,
Сучаснікі мае, сямейства вайдэлот.
Адчайна так любіць
Снягі старонкі гэтай
Мы ўмелі толькі там,
Дзе плакаў вечны Лот.

* * *

Мы сустрэнемся ўсе калі-небудзь
На скрыжалях вятроў і дарог,
У далонях сунічнага неба,
На зары каралёў і нябог.

За ракой, за абшарам сусвету
Чарадзейныя ёсць астравы,
Там і вечар рыфмуецца з верай,
Там і сосны — сёстры травы.

Мы сустрэнемся ўсе нечакана,
Па крыві, па сумленні радня...
І рукі не падыме Каін,
І прыме яго зямля.

## *МУЗЫКАНТ*

Палюбіце мяне, як неба,
Безнадзейна, пяшчотна, шчыра,
Нібы чорны кавалак хлеба,
Нібы белы птушыны вырай.

Палюбіце стамлёныя рукі
І плячэй заінелыя крылы,
Гэты плач вечаровы гаручы,
Гэты ранішні смех шчаслівы.

У руках вашых буду глінай,
У вачах вашых буду сонцам...
Граў музыка на акарыне
Агнявым сваім сэрцам бясконцым.

### *ГАНЧАР*

Стамлёныя рукі, жывая і звонкая гліна...
А неба высока, а сэрца глыбока. Хвіліны
Ляцяць зарападам да сэрца, на самае дно,
І дзень дагарае, і п'е залатое віно.

Народзішся з гліны і вернешся ў гліну
калісьці.
А сэрца? А сэрца натоліцца вершам, і лісцем,
І траўнем чаромхавым, вераснем
жоўтагаловым.
Ісці па зямлі яму босым і шчырым словам.

* * *

Ад сэрца да сэрца — дарога,
Ад сэрца да сэрца — туга.
Дарога квітуе нядоўга,
Патоне дарога ў снягах.

Але па вясне адзавецца
І цела яе, і душа,
Калі разняволены вецер
Абдыме яе ў спарышах.

Амые стамлёныя ногі
Вадой верасовых крыніц.
І будзе дарога доўгай,
І нас яна дабраславіць.

* * *

Гарацъ снягі,
Сівеюць скроні,
А я у Бога на далоні.

* * *

Ступае сон лясны па соснах-сходах.
Прыступачкі — ад неба да зямлі.
І сонца мёд за даляглядам сходзіць,
І лётаюць стракозы і чмялі.

Згубілася, прыснілася, згарэла.
Арэлі даляцелі да нябёс.
Старэе сонца горкай акварэллю
На мой, на твой, на адзінокі лёс.

Лясное сонца зведала пяшчоту,
Напілася жывой вады з крыніц.
А што далей, а што пасля? — Сумёты
І звон нямы намоленых званіц.

* * *

На памяць чытала сумныя вершы
І так наіўна верыла ў шчасце.
Гэтак бывае: успомніцца першы
Каханы —
і сэрца, і дзверы насцеж.

Зноў так наіўна верыцца, сніцца:
Раптам, а можа?.. Трывожна. Мурожна.
Бедная б'ецца ў грудзях сініца,
Нібы за кратамі. Божа ж мой...

* * *

А засну з разумнай кніжкаю і коткаю.
Муркатаць утульна ёй пра вечнае.
А за вокнамі ўжо й поўня ў рэчку коціцца,
І на дол сплывае час грамнічнай свечкаю.

## *СНЕЖАНЬ*

Сосны селі за кросны
Ткаць срэбны кужаль аблокаў.
Прыляцеў чорны сокал —
Пацямнела навокал.
Прыляцеў сокал белы —
І завылі мяцеліцы.

* * *

Учора была сасною,
А сёння перад вамі стаю.
І вочы мае васількова
Глядзяць на сівую зямлю.

Ворагам зрабаваную,
Падзеленую крывёй.
Я кожны дзень адчуваю
Смагаю каранёў.

Акрылёная нашчаю поўняю,
Рукі цягну да зямлі —
Дзе вы, крыніцы поўныя,
Слодыч сваю пралілі?

## *ПАМЯЦІ ЗАГІНУЛЫХ*

### *1*

Дзяўчынка, вяшчунка, душа,
Ты моўчкі крычыш ад болю.
Толькі табе вырашаць,
Ці прадаецца воля.
За сотню, ці за пятак,
За маселка з пірагамі.
Зноў каінава пячаць
Штандарам чужым над намі.

### *2*

Цёмна, сястрыца, цёмна
У светлы чэрвеньскі дзень.
На камяністай прошчы
Я запалю агмень.

І паляцяць, як znічкі,
Золатам да нябёс
Душы ахвяраў прошчаных
У жаўруковы лёс.

### *3*

А яны больш лістоў не напішуць,
Бо паляцелі лісты
Пялёсткамі сонных вішань,
Водарам кветак лясных.
А яны лістоў не напішуць.

Надта павольна хада
Дрэваў, што бачылі іх яшчэ
Жывымі.
                    Пакуль бяда
Не разлучыла.
                                Заснулі.
                                                Спачылі.

*4*

А лес схавае пад крыло
Апошнюю зару.
Усе дарогі замяло,
А я агнём гару.

Цяпер за кожнага дажыць
Прыдзецца удвая
Табе і мне на той мяжы,
Дзе вешчая трава.

На той адчаянай мяжы
Прастрэленых вятроў,
Дзе нават горкія крыжы
Спяшаюцца дамоў.

*5*

Па беламу — трава,
Па чорнаму — няволя.
Галосіць удава
Савою ў чыстым полі.
Па чорнаму — снягі
Пярыны сцеляць душам.
Дзе волаты ляглі —
Там і сірот задушаць.
А пушчы характво
Спяліць птушыны вырай.

Лятучае яство
Успомніць сны пра крылы.
Успомніць даўніх дзён
Жывую таямніцу:
Хто ў вышыні — анёл,
Той на зямлі — крыніца.
А прашчур скажа нам:
«Не будзі яко черві...»
І херувім, як храм,
Асвяціць шлях вячэрні.

## *СЭРЦА МАЦІ*

Калі заварушыцца брук...

*М. Скобла*

І раптам прарасце брук хлебам...
Ужо адрываецца... Рэкі... Палі...
Цяжка дыхае брук: даляцець бы да неба.
Маці вырасціць сына на вольнай зямлі.

Боханы з бруку цішынёю плывуць...
Як заснуць? Забіваюцца вочы зямлёю
У тых, хто схіліў галаву
На халодную лёлю.

«Люлі-люлі» спявала ўчора,
А сёння на вайну праважала.
Гэты хлеб быў цяжкі і чорны,
Гэты хлеб быў з вужыным джалам.

Нават брук прарастае хлебам,
Нават брук у неба ірвецца.
Моліцца маці зямлі і небу,
Захінаючы сына айчынаю сэрца.

* * *

Паміж дажджамі прарасці
І сцішыцца блакітнай кветкай,
Каб сны Радзімы бачыць зрэдку,
Хмарынкі родныя пасці.

Усё, што творыцца здаля,
Усё, што вернае на дотык,
Аддам, як мёд пчаліны соты.
Бяры, дзяцінная зямля!

## У ДАРОЗЕ

Шчымлівыя хаткі
нябёсаў крануцца шчакой,
Кустамі вяргінь,
пахам яблыкаў,
шэптам фіранак.
Дарога бяжыць,
зазямляецца з розных бакоў,
А я нашча сэрца
нагбом выпіваю наш ранак.

Прыснілася мне
жаўруковае поле ў расе,
Ты сны разгадаць
не бярэшся на выспачцы лёсу.
Я тут і не тут.
З чарадой адлятаю гусей
У яблычны Спас,
у сваю пералётную восень.

* * *

Перакладзі мяне на мову сэрца.
Усе мае лясы, усе трывогі,
І гэты дзень стамлёны, ткань шэрым,
І васілёк у жыце ля дарогі.

Перакладзі хмарынак пазалоту
На берагах шчымлівых птушкі-сонца,
І слова «жыць», і словы «вольна лётаць» —
Сінонімы маёй зары бясконцай.

Перакладзі надзею — светла, шчодра,
І першы пацалунак, і астатні.
Тады скажу табе нарэшце: «Родны,
А крылы ўваскрасаюць на світанні».

* * *

Чатыры дарогі — і кропка адліку.
Бачу сем спакус сваіх,
Сем поўняў вялікіх.
Чатыры дарогі. Скрыжаванне.
Агнём у целе:
«Ты песень хацела?
Чаму твае песні
Душу ўжо не песцяць?»
Бо кропка адліку —
Вусцішна, мнагаліка...

* * *

Размаўляю з маімі сябрамі
На старонках падораных кніг,
І крылатых радкоў арыгамі
Дакранаюцца вуснаў маіх.

Пасміхаюся без прычыны,
І святлее на сэрцы з таго,
Што кранаецца неба Айчыны
Вечаровага сонца майго.

* * *

Калі каханне папросіць,
Не адмаўляй яму.
Птушкаю сіняй восень
Села ў маю траву.

Стала так светла, велічна.
Вочы мае — вякі.
Вось заспявалі весніцы,
Ўпалі да ног шаўкі.

Суджаны, мной абуджаны,
Быццам жалейка я.
Грай залатымі ружамі,
Званочкамі салаўя.

Табе кашулю вышыла
Нашча, промнем вясны,
І пералётнаю вішняю,
І першацветам лясным.

## *НА БЕРАЗЕ ПОЎНІ*

За ўспаміны, як за саломінку,
Ухаплюся, снягамі скутая.
На шчацэ маёй мамы родзімку
Пацалую барвінкам, рутаю.

І дзядулевы рукі мядовыя
У халодным успомню лютым.
Зоркай да роднага дому мне,
Да радасці, не да смутку.

Я на беразе поўні моцная,
Я на беразе поўні шчырая.
Мае родныя за мяне моляцца
У сваім жаўруковым выраі.

## ***МЯДОВЫ ДЗЕД***

Мой дзед Іван, вясковы каваль,
Захапляўся пчалярствам.
Некалькі пчаліных хатак
Жылі ў нашым садзе
Проста пад яблынямі.
Вуллі былі пафарбаваныя пад колер
яблыкаў —
Жоўтыя, чырвоныя, зялёныя.
Пчолы і яблыкі былі між сабой сваякамі.
Калі дзядуля збіраў мёд,
Ён апранаў даўгі белы халат,
На сівую галаву — адмысловую сетку-маску.
Але на яго руках я ніколі не бачыла
пальчатак.
— Дзядуля, няўжо цябе пчолы не кусаюць? —
здзіўлялася я.
А ён толькі ўсміхаўся ў вусы:
— Не кусаюць, бо пазнаюць мяне па руках.
Рукі майго дзядулі Івана пахлі кузняй,
гартаваным жалезам.
Таму далей я разважала так:
«Кожнай пчолцы хочацца аддаць свой мёд
у надзейныя рукі.
А рукі дзеда — моцныя, загартаваныя...»
Мёд майго шостага лета быў асабліва
смачным.
Ён пах агнём і водарам кветак.

* * *

Прыбраўся кветкамі горад,
Дыхае чыста, празрыста.
А недзе сівое гора
Ваўкамі жалезнымі рыскае.

Як вымавіць слова «вайна»,
Гаручае і калючае?
За спомін душы віна
Выпіць. Віною змучаныя

Усе, хто сэрца збярог.
Раве ашалелы вецер
У небе пустых двароў,
У небе знямелых веснiц.

Вясна прыйшла і туды —
Пралескі цвітуць і ў пекле,
І прывіды сноў — сады
Салдацкія слухаюць песні.

## ЖЫЦЦЁ

Перабягаю поле напрасткі,
Аж цень баліць, за мной не паспявае.
Налева і направа — каласкі,
Як берагі зямнога небакраю.

Ужо да лесу некалькі снягоў,
А я бягу. Гараць вакол паходні,
І гэта паляванне на ваўкоў
Братоў маіх па адзіноце родных.

І я бягу. Я, пэўна, сярод іх.
Лясы завуць, а людзі не трымаюць.
І б’ецца сэрца зоркай на дваіх —
Ля пералеска важака пазнаю.

Мой дружа, мой адзіны, ты жыві.
Хай куля твайго сэрца не кранецца.
А воля захлынаецца ў крыві,
І цень падранкам у нябёсы рвецца.

Як гэта поле годна перайсці,
Перагарнуць і здрады, і падманы,
І да сябе сапраўдных дарасці,
І па слядах сваіх жа не прайсці,
І ў лес ступіць адважна і аддана?

## *РОДНАЙ МОВЕ*

Цябе успомніць сэрца па складах,
Па шыльдачках і прыдарожных знаках,
Па дзедавых намоленых крыжах
І па званочках пацалункам насцеж.

Цябе пазнае сэрца па дажджу,
Па заінелых восеньскіх каштанах.
Я перайду ўтравелую мяжу
Узнёсласці і падарункаў танных.

І прарасце, і зазвініць жыццё
На скрыжаваннях веры і нябыту.
Вунь паляцеў гадзіннік, не пацёк,
Як у Далі. Наканавана быць нам!

Дзяўчыначка, адчайная душа,
Стаміўшыся ў гармідары вакзалаў,
Зноў да цябе па спарышу прыйшла.
Пагавары з ёй Віцебскам Шагала.

## *НАПЯРЭДАДНІ КАЛЯД*

На ростанях зімы святлеюць вочы неба,
Штодзённую раку я пераходжу ўброд,
А за мяне бацькі кладуць жывыя трэбы
На тым канцы дажджоў, сумненняў і турбот.

Там моляцца за нас, а мы за іх старэем,
А мы за іх ідзем да берагоў душы,
І для сваіх дзяцей мы сталі ўжо карэннем,
Трымаем на плячах зялёны звон вяршынь.

І будзе так заўжды, пакуль зямля зямлёю,
І Божы Сын пакуль даруе ўсім нябогам.
На ростанях зімы пішу сваёй крывёю,
Што небыцця няма. Ёсць вера і дарога.

## *БАБУЛІ*

Перад смерцю бабуля спявала.
На праменьчыках родных, лясных
Маладосці пляла каралі
Успамінамі да вясны.

І ляцелі ўспаміны птушкамі
Над трыпутнікам долі зямной,
І вятрыскі калыскі гушкалі
З мамаю і са мной.

І вясельную сукню золатам
Вышывалі снягі,
Заручалася з воляй ты,
З ветахам дарагім.

Бегла ты пералескамі нашымі,
Чула гоман бароў,
Калі сонца давеку нашчае
Перавозіў Харон.

* * *

Не паспяваю жыць
                    не для сябе, для іншых,
І дарагіх людзей
                    губляю па чарзе.
Гарацць мае лясы —
                    душу ўкрывае іней.
Гарыць мая зямля —
                    скляпенне сноў-надзей.

Не паспяваю жыць
                    за хлебам, не за срэбрам
І некалі сустрэць
                    сваіх сівых сяброў.
Ляціць, ляціць жыццё
                    да брамы ў лютым небе.
І не хапае сіл,
                    і не хапае слоў...

* * *

Дабраславі жыццё,
зялёная старонка,
Дзе хмарак чарада
зямныя сны снуе.
На крылах цішыні
спявае сэрца звонка
Пра тое, што было
і будзе у мяне.
Дабраславі людзей
такіх балюча-родных.
Вучыцца даравацъ
мы будзем пакрысе,
Знаходзіць чарназём
сярод пустэль бясплодных,
Якімі сорак год
вадзіў сірот Майсей.
Мы з розных берагоў,
але народзяць нівы,
Пад ветрам зашумяць,
дадуць свае хлябы.
Напіцца цішыні
і быць з таго шчаслівай...
Дабраславі, зямля,
і навучы любіць.

* * *

Далей, далей ад шэрых плошч,
Да знічак на вадзе.
Алівы кветку птушка-ноч
Мне на далонь кладзе.

І там, дзе горкая трава,
Дзядоўнік і палын,
Крыніцам вочы адкрываць,
Як лепшы успамін.

Мяне чакае сто дарог,
І родная — адна.
Яе для мужных Бог збярог,
Хто горыч піў да дна.

## *РАГНЕДА*

*Паэма*

### *1*

Прыляцела ластаўка
І прынесла шчасцейка.
Шчасцейка бяссоннае,
Сэрцайка калёнае.

### *Варажба*

Чараўніца чаравала:
Подых, пёрка — і крыло...
Дзе зара была крывавай,
Пуцявіну замяло.

Як ляцеў па небе голуб,
Шызы голуб й залаты, —
Загубіўся ў лесе любы,
А нялюбы звёў масты.

Вёрсты, вёрсты... Снег патлаты
Азвярэў, нібыта воўк.
Сваты едуць, едуць сваты!
Чэзне свечка, льецца воск...

### *2*
### *Крумкач*

Прыляцеў на падваконне,
У вачах — дажджы, дажджы...
Хто ты: шчасце або скон мой?
Любы, вораг мой, скажы.

Толькі чую — вецер, вецер...
Толькі бачу шлях завей.
Дзе ты лётаў, чорны свеце,
На якой заснеш траве?

І чыя душа жывая
Б'ецца, стукае ў вакно?
Дзе зара была крывавай,
Там дарогі замяло.

Крук самотны — крык адчайны.
Чую, чую — будзе кроў...
Над зямлёй маёй — маўчанне.
Чэзне ноч.

### *3*

Чужая зямля —
Першая рана мая.
Рана другая —
Сукенка даўгая,
Вясельная.
На расе,
На чырвонай расе
Кахаў мяне любы.
Да згубы галубіў.
Да ночы урочыў.
Плашч апранаў сірочы.

### *4*
### *Уладзімір*

А зараз ты — княгіня.
Спужалася чаго? —
Што Полацк твой загінуў
Ад погляду майго.

Што аўдавелі жонкі,
Што паляглі сыны?

Ты кажаш, што я жорсткі,
Што спапяліў дамы.

Сватоў я слаў па чэсці,
Табе свой біў паклон,
Я шанаваў бы цесця,
Як трэба, за сталом.

Па келіху б мы ўзнялі
За вольны наш саюз,
Калі б ты не пракляла
Усю сваю сям'ю.

Калі б ты не назвала
Рабычычам мяне,
Зязюля б не кувала
Сярод сівых камней.

І вёскі не гарэлі б,
Не распіналі б дзеў,
І рэкі не крывелі б...
Я на цябе глядзеў!

Сама цяпер рабыня,
Рагнеда-Гарыслава.
Калі зара астыне —
Ты будзеш гора славіць.

*5*

Гора, гора сіраціне.
Дагарае ясны месяц,
Сэрца паляць успаміны,
Галавешку хіба песцяць?

Як палалі нашы вёскі,
Толькі попел коўдрай слаўся.
Дагарэлі мае вёсны,
Снег застаўся.

Як чаўны плылі па рэчцы —
Крумкачы кружылі ў небе
І клявалі маё сэрца
Замест хлеба.

### *6*

Ляцела галубка,
За ёй — чорны воран.
Мяне прыгалубіў
Не любы, а вольны.

Дзе праўда, дзе здрада?
Прыйшоў — не пытаўся.
Да ночы сірочай
Са мною застаўся.

### *7*

Паляцелі бацькі да выраю.
Раю-рай, сустрэнь іх ласкава,
Музыкай срэбнакрылаю,
Светла-зялёнай атавай.

Сёння не спіцца. Буду маліцца
Дзядам і адзінаму Богу.
Рукі мае — крыніцы,
Праўда мая — дарога.

Бог мой — айчына, дай жа спачын ім!
Дзе яны, а дзе я?..
Травой зарастаюць магілы, а памяць
Гарыць, як мая зямля.

### *8*

А душа душою тужыць,
А душа душой баліць.
Я пляту з хмарынак кужаль,
Ён не ўмее гаварыць.

Па сцяжыначцы сірочай
Пабягу ў гушчар лясны,
Стану я сястрою воўчай
На імгненне, да вясны.

Стану я сястрою ночы,
Нашча сэрца — далягляд.
Вып'ю келіх — буду танчыць,
Пацячэ жыццё назад.

Я дзяўчынкай так любіла
На Дзвіну глядзець з гары.
Недзе спіць мой Полацк мілы,
А душа зарой гарыць...

Паляцела б я галубкай
Ці бусліцай маладой.
Там мой бацька паліць грубку
І жыве каханы мой.

На хвілінку, на імгненне
Палячу на край зямлі.
Там гаворыць і каменне,
У мядах цвітуць палі.

Хто маю душу палечыць?
Вунь крумкач на хвоі спіць,
Пад крылом ракою вечнасць,
Я не ў змозе пераплыць.

Апаліла даль світанкам,
Тоне, чэзне птушка-ночка...

А за ёю я падранкам.
А за мною сон сірочы.

***9***

Дзе гарэла папараць-кветка
Да зары,
Мне крумкач прынёс вестку.
— Гавары!

Гавары, пакуль вецер
Яшчэ родны, як брат.
Гавары, пакуль кветкі
Яшчэ сіла сабраць.

Пачакай, мая згуба,
Дыхай вольна, душа.
Хто душу не галубіў —
Не напіўся з каўша.

Толькі кропля за кропляй
Пот каціўся, і кроў
Запякалася. Кросны
Ткалі зоркі без сноў.

І схіляліся песні
Да гаючай травы,
Там за права ўваскрэснуць
Йшлі ўміраць ваяры.

Мне кара́лі на шыі
Як вяроўкі былі.
Я кашулю пашыла
Да зямлі, да зямлі...

А крумкач беспрытульны
(Ў зрэнках тухне зара):
— Хутка будзеш матуляй, —
Выгукнуў, як мара.

— Подых свечачкі-поўні,
Спомін траў і мядоў
Сэрца сына напоўняць,
І ён прыйдзе дамоў.

Тут крумкач схамянуўся,
Да камення прынік.
Ноч-матуля мінула.
Белы дзень — чорны крык.

### *10*

Як дзіўна, сэрца, і як страшна:
Мой валадар адзіны — кат.
Ён люты, гожы і адважны,
І мне яго чакаць, чакаць...

Вяшчунка-доля так няўтольна:
Напіўшыся маёй крыві,
Яна сказала непрытомнай:
«Кахай, Рагнеда, і жыві».

Мой князь, мой кат,
                    мой вораг любы,
Цябе Стрыбог на муку мне
Паслаў,
          на неварать, на згубу,
На скон у немачнай віне.

Гарэць, гарэць ў агні пякельным,
І ненавідзець, і кахаць...
Ды не ў палатах княжых — келлі
Цябе чакаць і праклінаць.

## *11*

Пераверцень-трава, вярні сэрца.
Шэры дзень і шэрая ноч.
Некаханай лягчэй памерці
У прадонні гадоў і плошч.

Некаханай лягчэй да сонца,
Чым да сэрца каменнага звацць.
Дзе гняздзіцца тваё бяссонне,
Дзе твая, перасмешнік, раць?

## *12*

Пякуча, балюча,
свет — здраджаны рай.
Народзіцца хлопчык,
а ты — памірай.
Ні ўсмешкі, ні ласкі —
адзін люты снег,
Твае пацалункі —
і боль мой, і грэх.
Мне неба, як глеба,
на плечы лягло,
Я твару прыпомніць
не ў змозе твайго.
І праўда нямее
ў крыклівых дварах,
Прызнацца не смею,
што кат ў галавах.
Стаіць у чырвоным
і пільна глядзіць,
Каб сына твайго
я змагла нарадзіць.

## *13*

Спелянала б тваё блакітнавокае немаўля,
Ды калыскай цярновай стала зямля.
Да неба далёка,
Да сэрца глыбока.

Любы! Больш цябе не галубіць.
Мілы! Слабеюць ўжо крылы.
І бераг пастылы,
І сэрца астыла...

## *14*
## *Уладзімір*

Рукі твае халодныя,
Прыгалуб, Гарыслава.
Лёдам ты дыхаеш, лёдам,
Атрута — кожная страва.

Раўнуеш, напэўна? Ведаю
Жанчын я заморскіх, гарачых,
Толькі з табою-ведзьмаю,
Нібы ў дзяцінстве, плачу.

Літасцівы, мо, ягнёнак,
Хіба ты не ведаеш, як
Чакаю я нашае ночы,
Як срэбнай манеты жабрак.

Як жытняга хлеба галодны,
Як ка́ня кроплю дажджу...
А ты мне пад сэрца — лёдам,
А ты — паміж намі мяжу.

Рагнеда мая, Гарыслава,
Сцябліна на поўні дарог,
Калі б ты была ласкавай,
Я б сэрца сваё зберог.

### *15*

Утравела, утравела
Маё сэрца, як ралля.
Над зямлёю вее вецер,
А хілюся долу я.

Мая доля, як няволя.
Люты княжа-вітруган,
Смагу ты калі спатоліш
Па крывавым батагам?

Па знявераным чаканням,
Па спустошаным дварам?
Ты няўмольны, ты адчайны,
Побач так балюча нам...

### *16*

Ты мяне не пачуеш, як і заўсёды.
Спіш. Спеюць яблыкі. Сохне трава.
Я караць цябе буду сёння.
Няма болей сіл трываць.

Вось лязо і адбітак пачварны ў глыбінях
Гэтай бездані-поўні — жаночай слязы.
Ты такі малады ва ўспамінах,
Але ў сэрцы тваім — маразы.

Замарозіў ты кветку. Я сёння пачвара.
Я — забойца. У скрусе стаю ля акна.
Дзе мая запаветная мара?
Дзе мая дарагая зямля?

Хіба лёгка забіць, калі жылка дрыжыць
На скроні тваёй, як жывая?
А ў вачах маіх — капяжы...
Будзе рана ў грудзях нажавая.

Як жа мне жыць, калі жылка дрыжыць
І любыя дзеці паснулі?
Напэўна, дайшла да мяжы
І зверу ўва мне няўтульна.

Ты, вораг мой, кат, вяртайся назад,
Туды, дзе пачатак дарогі,
Дзе маці маёй сляза
Абмыла бацькавы ногі.

Туды, дзе залой зара
І кроў на белай кашулі,
Дзе наша гарыць зямля —
Знайдзі свой спачын-прытулак.

Памры, мой каханы, ўраз!
Жыві, мой каханы, вечна!
Прымара зары, як мара,
Сціскае за плечы...

***17***
***Уладзімір***

Што ты робіш тут, Гарыслава?
Чаму твае рукі ў крыві?
Якое ты маеш права
Паміраць? Я сказаў — жыві!

Ці, можа, маёй ты смерці
Жадаеш. Чаго дрыжыш?
З табой нам доля адмерыла
Ісці па адным крыжы.

Мяжуе нянавісць з каханнем,
Мяжуе з жалем праклён,
Я першы твой і астатні,
Жах твой і лепшы сон.

Навошта сябе ты губіш?
Забудзь усё злое, забудзь!

Знякровіла помста губы,
Жаданаю жонкай будзь!

Знаеш, і мне, Гарыслава,
Памяць урочыць сны...
Ды лепшая мая слава —
Наша дачка і сыны.

Знаю — табе няўцешна,
Знаю — табе баліць...
Толькі святлу без ценю
Не бываць на зямлі!

## *18*
## *Ператварэнне*

Дзіўны сон мне сёння сніўся:
Я — дзяўчынка. Церам наш
Быццам купал сіні-сіні...
Нехта кажа ціха: «Ляж...»

І падлога ўраз травою
Прарасла і зацвіла.
Я пазнала яе мову,
Бо цвіла травою я.

Я была расой сусвету,
Верасоваю зарой,
Я была вадой і ветрам,
Голасам лясных звяроў...

Дзіўны сон, а можа, памяць:
Кроў мая — лясы, палі...
Той агонь пакуту паліць,
Як салому на зямлі.

**19**

Сэрца маё самотнае,
Чорнае, як чарніца,
Ды ад агню смяротнага
Ратуе жывая крыніца.

Вось табе — поўня-паўнюткая.
Вось табе — жыва-жывучая.
Кветачкамі бялюткімі
Выткана воля гаючая.

**20**

Чорная сукня і белая ноч —
Родныя сёстры.
Слова «чарніца» нагадвае дождж,
Ніцыя вёрсты.

Божа, як светла, калі Ты са мной.
Пацеркай — ветах.
Я не скаруся смазе зямной,
Горычы свету.

**21**

Кажуць, дарога да храма...
Храм — у душы.
Рана мне, Божа, рана
Да нябесных вяршынь.

Чорная хустка — здрада,
Белая хустка — лёс...
Бацюхна-бусел параду
Мне на крылах прынёс.

Келля — мая цямніца,
Сэрца — мой храм.
Гэтыя вербы ніцыя
Нікому я не аддам.

Гэтыя рукі белыя
Параю лебядзей
Крыж накладаюць смела
На рабацінне ў вадзе.

Вобраз твой, Уладзімір,
Хутка ў рацэ згарыць:
Люты спачыне з мірам,
Міламу ў сэрцы жыць.

### *22*

Дождж праліецца —
стане светла душам.
На могілках падымецца трава.
І будзе вецер
песні маці слухаць,
А бацькава сівая галава
Вярбінаю нахіліцца да долу,
Да долу, да крыніцы,
да раллі...
Ваша дачка ўжо хутка будзе дома,
Яе краса,
нібы быльнёг,
згарыць.
І будзе вечнасць
спапяляць імгненні,
А воля захлынацца у крыві.
Рагнеда крыж сумленна будзе несці
Далёка ад радзімае зямлі.
«Дачушка, кветачка, —
Рагнедзе сніцца маці, —
Як дакранешся сонечнай мяжы,
Падуць замкі,
а дзверы будуць насцеж.

Душу сваю,
як неруш,
зберажы».

***23***

Мой сынок, паглядзі на мяне.
Ты хіба не пазнаў матулю?
Я канаю сярод камянёў
Сівой ластаўкай беспрытульнай.

Толькі вочы яшчэ гарадь.
У іх помста і памяць волі.
Маё сэрца даўно кара,
Не скаруся ні кату, ні долі.

Княжа мой, пакладзі ў труну
Васілёчкі з палёў радзімых,
І свяшчэнную даўніну,
І гаротны погляд Радзімы.

Абдымі мяне, неба, мацней.
Дзе кайданы хароняць песні,
Прыгадайце, людзі, мяне,
Калі я аднойчы ўваскрэсну.

***24***

У доме маім два вакны,
Два розных жыцці-дарогі.
У першым — прывід вайны,
Ў другім — прыгажосць ад Бога.

Змяшаліся попел і кроў,
А хочацца жыць і маліцца.
Даўно чалавека баіцца
Світанак — прыстанак буслоў.

У першым акне — зіма,
Закідвае смецце парогі.
Тут кат — чалавек дарагі,
І шыбеніцы, і астрогі...

Будуюць цэрквы ў другім,
Дзіцяці смяяцца чыста...
Вокны мае — берагі,
Я рэчкай плыву агністай.

### *25*

Зямля астывае пад вечар,
Птушкі ляцяць у вырай.
Душа — ты нябога вешчая,
Ластаўка срэбнакрылая.

Душа знае тое, што пішацца,
Баліць, і гарыць, і кахаецца,
Вярбінай пад небам калышацца,
На полі гаротным змагаецца.

Душа скажа тое, што ведаю.
(Хутчэй чысты аркуш паперы!)
Бо веды рыфмую з вераю,
Кожнаму будзе па веры.

## ЗМЕСТ

**З кнігі «Дзве зямлі — дзве долі» (2006)**



**З кнігі «Верасовыя песні зары» (2008)**

## Сцісла пра аўтарку

Іна Снарская нарадзілася ў старажытным Полацку. Скончыла сярэднюю школу № 3, Наваполацкі політэхнічны інстытут, атрымала дыплом інжынера-будаўніка. Пасля заканчэння інстытута (1987) тры месяцы працавала ў Маладзечне на заводзе металаканструкцый. Выйшла замуж за ўкраінца і пераехала разам з ім у Палтаву. Нарадзіла сына Уладзіслава. Два гады працавала па спецыяльнасці на кафедры жалезабетонных канструкцый Палтаўскага будаўнічага інстытута, але, маючы творчую натуру, занялася журналістыкай. Скончыла філалагічны факультэт Палтаўскага педагагічнага ўніверсітэта.

Творчай сувязі з Радзімай паэтка ніколі не перарывала. У розны час яе вершы друкавалі часопісы «Беларусь» і «Полымя», «Першацвет» і «Маладосць», «Край» і «Крыніца», «Роднае слова» і «Дзеяслоў», газеты «Літаратура і мастацтва» і «Голас Радзімы». На Украіне яе паэтычныя падборкі можна было прачытаць у «Палтаўскай думцы» і «Маладой грамадзе», «Зары Палтаўшчыны» і «Палтаўскім весніку». Вершы Іны Снарскай з'яўляліся ў самай папулярнай моладзевай газеце Украіны «Моладзь Украіны». Друкавалася палачанка-палтаўчанка і ў «Літаратурнай Украіне».

Аўтарка кніг вершаў «Пацеркі» (1994), «Пачакай, мая птушка...» (1998), «Лясная панна» (2001), «Кветка гарынь» (2005), «Дзве зямлі — дзве долі» (2006), «Верасовыя песні зары» (2008), «Ад сэрца да сэрца — дарога....» (2013).

Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, Нацыянальных саюзаў пісьменнікаў і журналістаў Украіны.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў».
Выпуск 20

**Іна Снарская**

**Вогнепаклонніца**

*Паэзія*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алесь Пашкевіч*
Мастак *Зміцер Шыла*
Вёрстка *Хведара Сумкіна*
Карэктар *Віктар Іваноў*

Падпісана да друку 28.06.2017. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 8,61.
Ул.-выд. арк. 3,64. Наклад 200 ас. Зак. 293.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.